КУЛЬТПРОП ЦК КП(б)Б
ПРАГРАМНА-МЭТАДЫЧНАЕ БЮРО

# МЭТАДЫЧНЫЯ ДАПАМОЖНІКІ
## ДЛЯ ПАРТАСЬВЕТЫ

№ 23 — ЛІСТАПАД 1931 г. — № 23
ВЫДАНЬНЕ ЦЭНТРАЛЬНАГА ДОМУ КАМАСЬВЕТЫ — МЕНСК

ТЭМА:

### Плянаваньне і задачы спэцыялізацыі ў сельскай гаспадарцы.

*Тэма разьлічана на 2 заняткі.*



Мэтай тэмы зьяўляецца:

1) Высьвятліць значэньне народна-гаспадарчага пляну для будаўніцтва соцыялізму і паказаць, што толькі пры Савецкай уладзе магчыма плянавае вядзеньне гаспадаркі і сапраўдны ўздым разьвіцьця сельскай гаспадаркі і што пры капіталістычнай сыстэме немагчыма плянавае вядзеньне народнай гаспадаркі.

2) Вывучыць, што новага ў справе плянаваньня сельскай гаспадаркі ўносіць рэканструкцыйны пэрыяд для завяршэньня пабудовы фундамэнту сацыялістычнай эканомікі у трэцім годзе пяцігодкі.

3) Паказаць, што спэцыялізацыя сельскай гаспадаркі ёсьць адзін з асноўных мэтадаў будаўніцтва плянавай гаспадаркі і посьпяхова рашае праблему с/г. вытворчасьці (збожжа, жывёлагадоўлі і тэхнічных культур). Вывучыць геаграфію спэцыялізацыі раёнаў сельскай гаспадаркі СССР і БССР.

4) Разабраць сутнасьць ухілаў ад Ленінскай лініі партыі ў галіне плянаваньня і спэцыялізацыі сельскай гаспадаркі, сутнасьць шкодніцтва у гэтым напрамку і неабходнасьць правядзеньня рашучай барацьбы на два франты.

## ПЛЯН ТЭМЫ:

1) Што такое народна-гаспадарчы плян і як яго складаюць.

2) Якое значэньне надаваў тав. Ленін плянаваньню народнай гаспадаркі.

3) У чым асаблівасьць плянаваньня сельскай гаспадаркі ў перыяд наступу сацыялізму па ўсяму фронту.

4) Што такое сустрэчны плян і як яго складаюць.

5) Сувязь паміж фінансава-вытворчым плянам і іншымі плянамі і залежнасьць аднаго ад другога.

6) У чым сутнасьць правага і „левага“ ухілаў у справе плянаваньня сельскай гаспадаркі і чаго дабіваліся шкоднікі ў гэтым напрамку.

7) Што такое спэцыялізацыя сельскай гаспадаркі і якое значэньне яна мае для сацыялістычнага будаўніцтва.

8) Спэцыялізацыя сельскай гаспадаркі БССР і роля саўгасаў і калгасаў у справе спэцыялізацыі.

9) Задачы спэцыялізацыі саўгасаў і калгасаў у даным раёне і неабходнасьць барацьбы са шкодніцкімі ўстаноўкамі ў пытаньнях спэцыялізацыі сельскай гаспадаркі.

### Агульна-мэтадычныя заўвагі:

Асаблівасьцю данай тэмы зьяўляецца тое, што практычнае значэньне яе надзвычай вялікае. На падставе вывучэньня гэтай тэмы слухач школы, альбо гуртку павінен атрымаць асноўныя веды, як па пытаньню значэньня пляна, так і па яго сутнасьці, а галоўнае, гэта навучыцца змагацца за выкананьне пляну.

Кіраўнік пачынае з растлумачэньня, што такое народна-гаспадарчы плян і якое ён мае значэньне для будаўніцтва сацыялізму.

Гаспадарка пры капіталістычнай сыстэме ня можа быць плянаваю таму, што ў аснове разьвіцьця капіталізму ляжыць анархія вытворчасьці. Адгэтуль вывесьці, што ўсялякія размовы аб тым, што капіталісты ні-бы імкнуцца ўвесьці плянавую гаспадарку, зьяўляюцца толькі абманам мас, для характарыстыкі прывесьці прыклады нарад і канфэрэнцый, якія адбыліся за апошнія гады ў капіталістычных краінах і якія яскрава гэта паказваюць. Далей кіраўнік пераходзіць да доказу, што плянаваньне народнай гаспадаркі магчыма толькі пры Савецкай Уладзе.

Дзякуючы таму, што ўсе камандныя вышыні знаходзяцца ў руках пролетарскай дзяржавы, нацыяналізацыя асноўных сродкаў вытворчасьці, зьмяніліся ўзаемаадносіны паміж горадам і вёскай, зьнішчана кляса капіталістаў, зьмянілася разьмеркаваньне нацыянальнага даходу, монополія ўнешняга гандлю і г. д., будаўніцтва соцыялізму магчыма, як будаўніцтва пляновае.

Усе гэтыя ўмовы, якія могуць быць толькі пры наяўнасьці дыктатуры пролетарыяту даюць магчымасьць паставіць організацыю народнай гаспадаркі па пэўнаму пляну, накіраванаму на пабудову сацыялізму ў нашай краіне, гэта значыць на задавальненьне ўсіх запатрэб грамады.

Кіраўнік указвае, што гэты народна-гаспадарчы плян складаецца спэцыяльна існуючай пры Савнаркоме кожнай рэспублікі Дзяржплянам, а агульны плян для ўсяго Савецкага Саюзу—Дзяржплянам СССР. Гэтыя пляны складаюцца, выходзячы з ўмоў наяўнасьці, з аднаго боку, запатрэб насельніцтва ў тых, або іншых прадуктах і таварах, з другога боку—выходзячы з наяўнасьці эканамічных і тэхнічных магчымасьцяў, якія маюцца ў нашай краіне (г. зн. выходзячы з наяўнасьці сродкаў, сыравіны, рабочай сілы і г. д.).

Пасьля гэтага магчыма перайсьці да пытаньня аб значэньні пляну. Кіраўнік падкрэсьлівае, што плян дае магчымасьць правільна і максымальна выкарыстаць усе вытворчыя сілы, маючыяся ў краіне і накіраваць іх у пэўным напрамку, забясьпечваючаму будаўніцтва сацыялізму.

Кіраўнік спыняецца на тым, што-бы атрымалася, калі-б ў нас ня было плянавага вядзеньня гаспадаркі, калі-б работа паасобных галін прамысловасьці, альбо прамысловасьці і сельскай гаспадаркі, ня была-бы ўзгоднена, калі-б кожная галіна дзяржаўнай гаспадаркі была-б прадастаўлена самой сабе. Кіраўніку лёгка даказаць, што гэтакая бясплянавасьць бяспрэчна павінна была-бы прывесьці да такога-ж становішча, што і ў капіталістычных краінах, да анархіі вытворчасьці, канкурэнцыі і крызісу.

Адсюль кіраўнік падыходзіць да высьвятленьня таго значэньня, якое надаваў тав. Ленін пытаньню аб пляне. Ленін раўнаў гаспадарчы плян з другой праграмай партыі і падкрэсьліваў неабходнасьць буйных плянаў, разьлічаных на доўгі тэрмін і на сур'ёзны посьпех. Тав. Ленін падкрэсьліваў, што ні аб якой пабудовы соцыялізму бяз плянавай гаспадаркі гаварыць немагчыма. Тав. Ленін высоўваў патрэбаваньні аб неабходнасьці ўцягненьня ў справу плянаваньня шырачэзных колаў пролетарыяту і працоўных ня толькі ў справе выкананьня пляну, але і ў справе самаго іх складаньня.

Кіраўнік пасьля гэтага пераходзіць да разбору асаблівасьцяў складаньня пляну на розных этапах разьвіцьця Савецкай гаспадаркі, падкрэсьліваючы, што ў пэрыяд ваеннага камунізму пляны складаліся для паасобных галін нашай гаспадаркі, напрыклад:

прадавольственныя пляны, плян транспартных перавозах і г. д. На першым этапу НЭП'у пляны таксама складаліся па паасобных галінах і на больш кароткія тэрміны. Чым больш разьвівалася наша гаспадарка, тым усе больш рабіліся патрэбны пляны ахопліваючыя ўсе галіны гаспадаркі і разьлічаныя на больш доўгі тэрмін.

Вось чаму на першы пэрыяд мы складалі пляны па асобных галінах гаспадаркі, пасьля гэтага мы перайшлі да складаньня кантрольных лічбаў на кожны год і нарэшце перайшлі да складаньня плянаў, разьлічаных на больш доўгі тэрмін. Такім плянам зьяўляецца пэрспектыўны плян разьвіцьця народнай гаспадаркі СССР першая пяцігодка, а зараз ужо ставіцца пытаньне аб складаньні генэральнага пляну, разьлічанага на яшчэ больш доўгі тэрмін.

Кіраўнік павінен растлумачыць, што неабходнасьць доўгатэрміновых плянаў выклікаецца самім жыцьцём, што немагчыма сапраўды разгортваць рэканструкцыю прамысловасьці і будаўніцтва буйных фабрык і заводаў, будаўніцтва якіх разьлічана на некалькі год, без наяўнасьці плянаў доўгатэрміновых плянаў. Як прыклад кіраўнік можа прывесьці Днепрабуд, Кузьнецкбуд, Магнітбуд, Аўтабуд, будаўніцтва буйных саўгасаў і г. д., якія разьлічаны на 2—3 і нават на 5 год.

Кіраўнік спыняецца на тым, што тав. Ленін яшчэ ў часы поўнай разбуранасьці нашай гаспадаркі высоўваў неабходнасьць такіх плянаў, разьлічаных на доўгі тэрмін, якім зьяўляўся плян Гоэлро (Государственная Комисия по электрофикации России), які быў разьлічан на будаўніцтва буйнейшых электрастанцыяў у Расеі на працягу 10—15 год, і які тады выклікаў насьмешку з боку капіталістаў усяго сьвету, а зараз ўжо выкананы.

Пасьля гэтага кіраўнік пераходзіць да асаблівасьцяў у пляннаваньні сельскай гаспадаркі.

Сельская гаспадарка ў нашай краіне была вельмі адсталай і разгортвалася на базе дробнай, аднаасобнай сельскай гаспадаркі, асабліва ў першы пэрыяд НЭП'у. Зусім зразумела, што плянаваць гаспадарку, якая складалася з 20-ці з лішкам мільёнаў паасобных гаспадароў зьяўлялася вельмі цяжкай справай і што гэтае плянаваньне не магло быць такім-жа, якім зьяўлялася плянаваньне буйнай прамысловасьці, дзе гаспадаром зьяўлялася пролетарская дзяржава. Аднак, і у гэтыя часы, плянаваньне сельскай гаспадаркі праводзілася шляхам уплыва на сялянства і зацікаўленьня яго сеяць тое што патрэбна дзяржаве і ў такім разьмеры, які патрэбен дзяржаве.

Гэтымі мерапрыемствамі зьяўлялася політыка цэн, падатковая політыка, кантрактацыя, коопэраваньне, у першую чаргу тавара-

звароту, а пасьля і вытворчае коопэраваньне, земляўпарадкаваньне, агра-мінімум і г. д.

Пры чым гэтае плянаваньне было накіравана ня проста на тое, каб толькі разгортваць сельскую гаспадарку, але ўвесь час накіровалася на тое, каб узмацніць сацыялістычны сэктар, забясьпечыць паварот сялянства да калектывізацыі.

Зразумела, што паварот сялянства тварам да калгасаў справу плянаваньня сельскай гаспадаркі паставіў у іншыя ўмовы і значна яе аблягчыў. На самой справе, замест 23—24 мільёнаў дробных сельскіх гаспадарак ужо зараз маецца больш 60 проц. сельскіх гаспадарак, знаходзячыхся у калгасах. Маецца вельмі шмат буйнейшых саўгасаў. Зусім зразумела, што зараз плянаваць сельскую гаспадарку значна лягчэй і нават значна лягчэй плянаваць усю народную гаспадарку. Ня трэба чакаць пакуль здымуць ураджай, бо загадзьдзя вядома колькі будзе пасеяна ў калгасах і саўгасах, колькі будзе зьнята ў калгасах і саўгасах, вядома колькі павінна быць здадзена імі сельска-гаспадарчых прадуктаў дзяржаве.

Плянаваньне сельскай гаспадаркі пры калектывізацыі паказвае мэтазгоднасьць і неабходнасьць пераходу да спэцыялізацыі сельскай гаспадаркі. Карыстаючыся матар'ялам, дадзеным у гутарцы „За Ленінскую вучобу“ кіраўнік разьбірае у часопісі, на якія раёны па спэцыяльнасьці падзелен увесь Савецкі Саюз і як канкрэтна разьдзяляецца па спэцыялізацыі БССР. Кіраўнік растлумачвае, што такое спэцыялізацыя і якое значэньне яна мае для разьвіцьця сельскай гаспадаркі і для разьвіцьця ўсей народнай гаспадаркі.

Кіруючымі ў справе спэцыялізацыі сельскай гаспадаркі бяспрэчна павінны зьяўляцца калгасы і саўгасы. Яны павінны садзейнічаць таму каб і аднаасобны сэктар, які яшчэ маецца, сваю гаспадарку таксама будаваў на прынцыпе спэцыялізацыі, даказваючы аднаасобніку селяніну—бедняку і серадняку карыснасьць спэцыялізацыі гаспадаркі.

Разабраўшы ўсе гэтыя пытаньні, кіраўнік павінен растлумачыць, што справа плянаваньня сельскай гаспадаркі, як і справа плянаваньне ўсей народнай гаспадаркі выклікала шаленае супраціўленьне з боку клясавага ворагу. Шкоднікі—контррэвалюцыянэры якія знаходзіліся ў нашых плянавых ворганах імкнуліся плянаваць нашу сельскую гаспадарку такім чынам, каб праз гэтае плянаваньне прывесьці да рэстаўрацыі капіталізму. Яны (шкоднікі), імкнуліся даказаць, што разьвіцьцё сельскай гаспадаркі магчыма толькі на аснове аднаасобнай гаспадаркі.

Што, калі ня будзе дробнай аднаасобнай сельскай гаспадаркі, дык ў селяніна ня будзе зацікаўленасьці ў разьвіцьці сельскай гаспадаркі, ён будзе сельскую гаспадарку разбураць, і тым са-

мым ён прывядзе да поўнага разбурэньне ўсей народнай гаспадаркі. Зусім зразумела, што яны (шкоднікі) былі супроць індустрыялізацыі краіны і асабліва сельскай гаспадаркі, бо яны ведалі, што пры наяўнасьці вялікай колькасьці сельска-гаспадарчых машын—сельская гаспадарка павінна будзе ўзбуйніцца і што гэтакае ўзбуйненьне ў сувязі з політыкай партыі і Савецкай улады магчыма толькі па соцыялістычнаму шляху, г. зн. па шляху будаўніцтва калгасаў і саўгасаў.

Калі стаўка на некарыснасьць буйнай гаспадаркі была біта паваротам сялянства тварам да калгасаў, калі на базе індустрыялізацыі краіны былі пабудаваны буйныя калгасы і саўгасы, якія паказалі ўсю сваю пераважнасьць, як у параўнаньні з дробнай сельскай гаспадаркай, гэтак і ў параўнаньні з буйнай капіталістычнай гаспадаркай—яны (контррэвалюцыянэры-шкоднікі) выступілі супроць спэцыялізацыі сельскай гаспадаркі, супроць раёнаваньня.

Кіраўнік падкрэсьлівае, што кулацтва на вёсцы таксама вельмі супраціўляецца плянаваньню гаспадаркі, рэзка выступае супроць спэцыялізацыі сельскай гаспадаркі. Выкарыстоўваючы кожны недахоп у працы кожнага паасобнага калгасу і саўгасу, выкарыстоўваючы слабасьці паасобных кіраўнікоў—кулацтва імкнецца даказаць сялянству немэтазгоднасьць, некарыснасьць плянавага вядзеньня гаспадаркі і спэцыялізацыі гаспадаркі. На яскравых прыкладах з мясцовых умоў кіраўнік павінен даказаць шкоднасьць гэтакай кулацкай работы і навучыць слухача распазнаваць кулацкую агітацыю. Адсюль кіраўнік пераходзіць да разбору сутнасьці ўхілаў ад Ленінскай лініі партыі ў справе плянаваньня і спэцыялізацыі сельскай гаспадаркі. Кіраўнік даказвае, што гэтыя ўхілы зьяўляюцца вынікам уплыву клясава-варожых, буржуазных элемэнтаў на паасообныя элементы нашай партыі, якія спалохаліся цяжкасьцяў і запатрабавалі стрыманьня тэмпаў разьвіцьця. Кіраўнік даказвае ўсю шкоднасьць настрояў аб самацёку, якія фактычна ідуць уразрэз з нашым плянаваньнем, якія фактычна зьяўляюцца пагрозай зрыву ўсяго будаўніцтва народнай гаспадаркі. Тут-жа кіраўнік падкрэсьлівае, што усё пляны, якія праводзяцца ў сельскай гаспадарцы, шчыльна зьвязаны паміж сабою і зьвязаны з плянам разьвіцьця ўсей народнай гаспадаркі. Прыклад: няпоўнае выкананьне пляну зяблевай ўспашкі пагражае зрывам выкананьня пляну вясновай сяўбы; няпоўнае выкананьне пляну сяўбы пагражае зрывам выкананьне хлебанарыхтовак; невыкананьне пляну хлебанарыхтовак і нарыхтовак сыравіны, пагражае зрывам працы прамысловых прадпрыемстваў—зрывам пляну забесьпячэньня пролетарыяту і Чырвонай арміі прадук-

тамі сельскай гаспадаркі; невыкананьне пляну хлебанарыхтовак
і іншых нарыхтовак—пагражае выкананьню фінансавага пляну і г. д.
У гэтым асаблівасьць нашай савецкай плянавай сельскай гас-
падаркі і гэта павінен ведаць кожны слухач школы.

Пасьля гэтага кіраўнік можа перайсьці да разбору пытаньня,
што патрэбна, каб забясьпечыць выкананьне пляну. Яшчэ раз
абгаварыўшы асноўныя 6 умоў, якія высунуты тав. Сталіным у
сваей прамове на нарадзе гаспадарнікаў, кіраўнік падкрэсьлівае
неабходнасьць давядзеньня пляну да кожнага калгасьніка, саў-
гасьніка і аднаасобнага сэктару, пры чым кіраўнік павінен рас-
тлумачыць, што сутнасьць давядзеньня пляну выражаецца ня ў
тым, каб награмадзіць прад кожным рабочым саўгасьнікам, або
калгасьнікам груду лічбаў, а ў тым, каб кожны ўразумеў у чым
сутнасьць усяго пляну і што канкрэтна патрабуецца ад яго і ад
яго гаспадаркі для таго, каб выканаць гэты плян. Адсюль зразу-
мела ўжо лёгка паясьніць, што пляны, якія складаюцца вышэй-
шымі гаспадарчымі арганізацыямі на мясцох у сувязі з тым, што
кожны на мейсцы ведае лепш умовы сваей працы могуць быць
зьменены ў напрамку павяліэзньня плянаў і што гэтае павы-
шэньне плянаў на аснове ўліку мясцовых асаблівасьцяй і зьяў-
ляецца сустрэчным плянам. Разгортваньне сацспаборніцтва і удар-
ніцтва, складаньне плянава-аперацыйных брыгад у саўгасах і кол-
гасах ёсьць сродак і мобілізацыі актыўнасьці мас на праада-
леньне цяжкасьцяй і выкананьне плянаў. Показаць на вялікае
значэньне народна-гаспадарчага пляну трэцяга году пяцігодкі і
мобілізаваць на яго выкананьне.

У заключэньне кіраўнік павінен, узяўшы ў аснову плян разь-
віцьця сваей гаспадаркі (канкрэтны вытворчы гаспадарчы плян
данага калгасу, саўгасу) разабраць канкрэтныя задачы, якія
паўстаюць перад кожным слухачом школы, перад кожным кал-
гасьнікам і рабочым саўгасаў у справе выкананьня гэтага пляну.

Кіраўнік павінен падкрэсьліць важнасьць уцягненьня ў спра-
ву выкананьня плянаў і аднаасобнікаў.

Неабходнасьць рашучай барацьбы са шкодніцкімі ўстаноўка-
мі ў пытаньнях плянаваньня сельскай гаспадаркі і ў пытаньнях
спэцыялізацыі павінна даводзіцца на падставе вывучэньня кан-
крэтнай карысьці, якую магчыма атрымаць пры правядзеньні
поўнага пляну гаспадаркі, пры правядзеньні поўнай спэцыялі-
зацыі.

## ЛІТЭРАТУРА:

**(Для слухачоў).**

**Гутарка ў часопісе** „За Ленінскую вучобу" „Плянаваньне і задачы спэяыялізацыі ў сельскай гаспадарцы".

**Для кіраўнікоў** Леонцьеў—„Капіталізм і соцыялізм" гл. IV-ая, „Плянавая Гаспадарка ў СССР", стар. 38—53.

Даклад тав. Якаўлева на XVI-м партыйным Зьезьдзе.

Прамова тав. Якаўлева на нарадзе па засухе.

Прамова тав. Сталіна на XVI-м парт-зьезьдзе разьздз. аб унутраным становішчы.

Прамова тав. Сталіна на нарадзе гаспадарнікаў.

„Заводзкі плян, як ён ёсьць". Правда 14/XI-31 г.


---

Склаў **Велькоў.**


Рэдкалегія: **Модель** (Ад. рэдактар), **Улазаў, Гурэвіч.**

Друк. Кір. Спраў СНК і ЭС БССР. Зак. № 750. Тыр. 6000 экз. Галоўлітбел № 2871.